Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 56 (107). Вільня, Серада 20 Ліпня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Сьвятло на запраўднасьць.

Польскі ўрад неяк неўспадзеўкі зачыніў надзвычайную сэсію Сойму і Сэнату. Якія прычыны гэтаму, мы ня ведаем, ды і ведаць нам гэтага ня трэба: здаецца, ўрад зрабіў гэтак, як маючы ўладу захацеў, і гатова. Мы ўжо ў папярэднім нумары адзначалі, што для нас і гэтак як ёсьць, дык вельмі блага і тое, што Сойм тварыў, дык было-б надта дрэнна. І вось, на тую дрэнную працу Сойму мы і хочам праліць трохі сьвятла, каб яе пэрспэктывы сталі зразумелымі і яснымі беларускаму народу.

Першае, што тварыў Сойм на толькі што закончанай надзвычайнай сэсіі, дык гэта—самаўрадавыя ўставы. На першы пагляд можа здацца, што гэта добра, бо-ж да гэтага часу мы ня мелі самаўрадаў толькі таму, што ня мелі адпаведных уставаў. І калі цяпер Сойм апрацоўваў гэтыя ўставы, дык здавалася-б, што іх трэ' было-б толькі вітаць. Але-ж акурат наадварот, прыходзіцца пратэставаць проці ўставаў, не самаўрадавых уставаў наагул, а проці тых, якія праходзілі праз Сойм.

Пратэставаць прыходзіцца дзеля таго, што тыя ўставы скіраваны выключна проці нас, як народу іншае, няпольскае нацыі. Пратэставаць прыходзіцца дзела таго, што польскія партыі ў Сойме, маючы лічбова большасьць, твораць гэтакія ўставы, якія пазбаўляюць нас права на самаўрададаваньне. Гэтае вечна актуальнае пытаньне ўжо ня раз абгаварвалася на старонках беларускіх газэтаў, аднак-жа кожны раз яно не пазбаўлена цікавасьці... Цікавасьць яго выяўляецца ў тым, што кожны раз, калі толькі зьяўляецца яно на парадку дня, дык можна дагледзіць, што польская часьціна Сойму імкнецца мацней завязаць нас у мяшку; сіліцца шпарчэй рубануць востраю шабляю і энэргічней кальнуць нас.

Паміма немагчымых для нас і вельмі балючых самаўрадавых уставаў, Сойм гатовіць для нас і другую горкую чарку—зьмену выбарнага закону да Сойму і Сэнату. Праўда, гэты закон яшчэ толькі праектуецца, але-ж і тут таксама варта праліць сьвятло на тыя праекты. Усе тыя праекты аб зьмене выбарнага закону, якія толькі паўставалі ў соймавых камісіях, маюць адну, яскрава выяўленую тэндэнцыю,—недапусьціць нашых прадстаўнікоў да Сойму і Сэнату. Дык вось у чым справа, але-ж ня ў гэтым запраўднасьць, на якую хочам праліць сёньня мы сьвятло.

Гледзячы на адносіны Сойму і ўраду між сабою, гледзячы на адносіны да сябе польскіх партыйных групіровак у Сойме, можна заўважыць між імі спрэчкі, нязгоды, разлад на ўсім пытаньням дзяржаўнага жыцьця апрача адносін да нацыянальных меншасьцяў: Адносна апошніх, дык уваўсіх Палякаў зьяўляецца поўная гармонія і вось, знача, на гэтую небясьпечную і жорсткую для нас гармонію, вось знача, на гэтую запраўднасьць мы хочам праліць сьвятло, каб наш народ мог гэта ясна сабе прадставіць сутнасьць справы, каб мог зразумець яе. У чым-жа небясьпека і жорсткасьць, у чым-жа сутнасьць поўнае гармоніі польскага народу ў адносінах да нас нацыянальных меншасьцяў?

У імкненьні ўжо афіцыяльней абмяжаваць, ці праўдзівей—урэзаць нашыя грамадзянскія правы ў польскай дзяржаве.

Што-ж нам рабіць, каб умацаваць і ўратаваць нашыя грамадзянскія правы ад замаху на іх польскага шавінізму? Вось пытаньне, якое мы ставім адкрыта і проста на парадак дня перад нашых народам. Няхай кожны Беларус падумае аб гэтым, дык можа хто нойдзе спосаб, можа хто падасьць добрую думку, якую можна будзе прыняць як бераг ратунку.

Праліўшы сьвятло на жорсткую запраўднасьць і ня даўшы самога канкрэтнага, больш рэальнага выхаду з цяжкага палажэньня, мы ўсё-ж такі лічым, што зрабілі галоўнае і што гэным галоўным зьяўляецца высьвятленьне гэтага запраўднага нашага палажэньня. Мы лічым, што ніхто ня стане нам пярэчыць, што галоўны ратунак—гэта знаць і ведаць свае абставіны, сваё палажэньне. Ніхто ня стане пярэчыць, што штырнік, ведаючы дзе падводны камень, скіруе свой карабель, каб не разьбіць яго, або ведаючы дзе плыткае месца, пастараецца абмінуць, каб не асесьці на ём. Так і наш народ—штырнік сваей долі—знаючы і ведаючы ў чым яго небясьпека, павінен напружыць усе свае сілы, каб пакіраваць свой лёс і сваё істнаваньне ў належны бок. Гэта і ёсьць самае канкрэтнае!...

**Скарга.**

## Крывавыя безпарадкі у Вене.

У Вене ў аўстрыўскай сталіцы паўсталі безпарадкі, якія выклікалі крывавыя падзеі.

Прычынаю гэтых падзеяў зьявілася гэтакае здарэньне. У папярэднім часе, тры сябры саюзу нацыяналістых-франтавікоў стралялі ў работнікаў, пры гэтым забілі аднаго работніка і аднаго хлапца 6 гадоў. І вось—суд гэтых забойцаў апраўдаў. Разумеецца, што гэта выклікала вялікае абурэньне сярод работнікаў, якія распачалі дэмастранцыю перад судовым гмахам. Бачачы пагражаючы настрой дэманстрацыі, паліцыя хацела разагнаць натоўп, але-ж ёй гэта не ўдалося. Паліцыя ўжыла аружжа, вынікам чаго зьявіліся стрэлы ў адказ паліцыі з боку работнікаў. Натоўп увайшоў у злосьць. Апанаваўшы гмах суда, дэманстранты павыкідвалі судовыя справы на вуліцу і падпалілі, а таксама падпалілі гмах суда.

Бачачы гэтакі зварот справы, сацыял-дэмакраты, якія паднялі дэманстрацыю, хацелі ўжо кончыць, але-ж натоўп ня слухаў сваіх правадыроў, дык гэтым скарысталі камуністыя. Дакладных вестак з Вены няма, бо як чугункавая, так і ўсякая іншая камунікацыя з Венаю перарвана. Ёсьць весткі, быццам работнікі захапілі галаўнейныя дзяржаўныя ўстановы і быццам частка войска прысланага для заспакаеньня бунтаўшчыкоў, перашла на бок работнікаў. Есьць весткі, якія паказваюць вялікую колькасьць людзей забітымі і паранянымі, аднак-жа газэты пішуць ужо з другога дня, што паўстаньне зьліквідавана і што быццам варочаецца заспакаеньне.

Болей-меней у сучасны момант сытуацыя прадстаўляецца гэтак: пад дзействам прафэс. саюзаў і сацыял-дэмакратаў паўстаньне ліквідуецца. Па загаду ўсё тых-жа сац.-дэмакратаў была абвешчана 24 гадзінная забастоўка, каб зрабіць націск на ўрад, які павінен або зусім падацца ў адстаўку, або пайсьці на кампраміс (на згоду) з сац.-дэмакратамі і дапусьціць іх прадстаўнікоў да ўлады.

На прыватную маемасьць ня было ніякага пасяганьня.

Ахвяраў крывавых здарэньняў налічваецца 40 забітымі і 1000 раненых; у гэтай лічбе разам: работнікаў і паліцыі.

## Савецкая Беларусь.

Па распараджэньні з Масквы зьмешчаны з пасады старшыні Беларускага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту тав. Чэрвякоў, за тое што павышаным тэмпам праводзіў беларусізацыю...

У сувязі з гэтым хочацца адзначыць два моманты. Адзін гэта тое, што па тэорыі савецкага дзяржаўніцтва старшыня ня можа назначацца і зьмяшчацца адміністрацыйным парадкам: ён павінен выбірацца самым Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам. Ну, а тут як-жа так? А надта проста! Знача увесь Беларускі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт—фікцыя, пыл у вочы пралетарыяту—работнікам і сялянам. Другі момант, дык тое, што тав. Чэрвякоў зьмешчаны за праводжаньне беларусізацыі знача за тое, што тварыў беларускую нацыянальную палітыку, а не інтэрнацыянальную. За гэта самае нядаўна, гэтакім самым парадкам, быў зьмешчаны і тав. Адамовіч, старшыня Рады Народных Камісараў.

З гэтага відаць, што Савецкая Беларусь ніякае самастойнасьці ня мае. Але, таксама відаць што імкненьне да гэтага ёсьць, нават сярод камуністых Беларусаў па нацыянальнасьці. Дык гэта апошнее нас вельмі цешыць!..

*Усіх падпішчыкаў просім прыслаць належныя за газэту грошы. Хто ня прышлець падпіскі, таму будзе спынена пасылка газэты.*

# Alarm „Robotnika“.

У № 194, з нядзелі 17 г. ліпня, сацыялістычны „Robotnik“ піша:

„Учарашні нумар „Работніка“ канфіскаваны згодна абняслӑўленага прэсавага дэкрэту за вестку аб безпрыкладным захаваньні мін. Рамоцкага ў адносінах да дэлегацыі Прафэсыянальнага Саюзу Чугуншчыкаў і Прафэсыянальнага Саюзу Машыністых. Істнуюць пробы справу прадставіць гэтак, як-бы спрэчкі паўсталі асабіста між панам Рамоцкім і таварышам Адамам Курыловічам. Катэгарычна адкідаем гэтакае тлумачэньне. Напамінаем паслу Курыловічу, што ён зьяўляецца чугункавым працаўніком і зьяўляецца паказчыкам, як п. Рамоцкі трактуе Канстытуцыю і як выглядае яго (міністра) асабістая вартасьць.

Галоўны пункт знаходзіцца недзе іначай.

Гэты адказны міністар ураду кінуў брутальным спосабам вызаў дэлегацыі чугункавых мас, кінуў вызаў усім чугункавым працаўніком, усёй работніцкай клясе, а знача і Польскай Сацыялістычнай Партыі.

А цяпер—гістарычнае напамінаньне.

У першыя дні маёвага перавароту марш. Пілсудскі асабіста прасіў кіраўнікоў Прафэсыянальнага Саюзу Чугуншчыкаў, каб аны абвясьцілі забастоўку на чугунках і забастоўка адбылася: дык гэта яна разьвязала справу перавароту, бо не дала магчымасьці ў належны час прыбыць вайсковай дапамозе для кабінэту Вітаса і прэзыдэнта Вайцехоўскага. Пан Рамоцкі быў тагды, як пісалі мы ўжо ўчора, хадэцкім паслом і падтрымоўваў урад правіцы.

У сьвятле гэтага факту, здарэньне аб якім пішам, набірае цяпер адпаведнай яскравасьці, адпаведнага палітычнага і... маральнага значэньня.

Здарэньне гэта зьяўляецца складаваю часткаю адносінаў ураду наагул да дэмакрацыі і прафэсыянальнага работніцкага руху. Зьяўляецца яно б'ючаю ў вочы зьяваю фашыстоўскіх і паўфашыстоўскіх дасяганьняў і імкненьняў, злучаных з неабходнасьцю і абсалютычнаю мэтодаю ўрадаваньня.

Дзеля гэтага аддалі ўчора мы п. Рамоцкага пад суд работніцкай апініі, пад суд незалежнай публічнай апініі. З поўным пачуцьцём адказнасьці і вагі нашых слоў падаём да ведама работніцкае клясы, падаём да ведама народу.

Дэмакрацыі пагражае сьмяртэльная небясьпека“.

Гэтак піша „Работнік“ пасьля таго, калі дастаў па пыску ад ураду, тварцом якога, яго „сацыялістычная“ партыя зьяўляецца. Дзякуючы ўгодзе з рэакцыйнымі кансэрватыўнымі коламі—пэпэсы памаглі буржуазіі ўмацаваць сваю ўладу... Дык і выглядае пасьля гэтага нейк карыкатурна і сьмешна і гэты сацыялістычны „алярм“ (трывога) і палажэньне самых сацыялістаў. якія топаюць на месьце ня маючы ні выхаду ні ходу... Гэтак бывае заўсёды з буржуазнымі ўгодніцкімі прыхвасьнямі, пасьля таго, калі буржуазія выкарыстае іх, калі яны стануць ёй ужо болей не патрэбнымі. Гэтак сталася 15 г. ліпня з сацыялістымі з праф. саюзу чугуншчыкаў, якіх п. міністар папрасіў за дзьверы, ня толькі, што не згадзіўся задаволіць іх вымаганьні, але-ж не захацеў нават і гаварыць. Дык вось, дзеля гэтага паўсталі абурэньні з боку сацыялістых да ўраду. Дык вось, гэта і выклікала аж дзьве канфіскаты „Работніка“.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

## Крыху крытыкі.

У папярэднім нумары мы надрукавалі артыкул „Англія і Эгіпет“ згодна карэспандэнцыі з Лёндана; цяпер мы падаём маленькі крытычны агляд.

Аўтар карэспондэнцыі апраўдывае Англію ад дэнацыналізатарскіх і вызысківацкіх намераў і хваліць дзяржаўны розум ангельскага ўраду. З апошнім можна згадзіцца, што датычыць першага дык нельга прызнаць рацыі, бо Англія, як і ўсякая іншая дзяржава нашага часу — імпэрыялістычная дзяржава. Яна як і ўсякая іншая імкнецца да захватаў чужых зямель у мэтах „энглізаваць“ і вызысківаць іх, але-ж на тое і адзначаюцца палітычнымі здольнасьцямі яе кіраўнікі, што зрабілі толькі адну памылку, бо праводзяць і „энглізацыю“ і хітра і спрытна, проста мала прыкметна.

Адносна Эгіпту, дык ясная рэч, што ён выбірае з усіх ліхаў тое, якое лічыць найменшым. Ня будзь Эгіпет пад „пратэктаратам“ Англіі, дык папаў-бы ён пад Італію ці Францыю, а гэтая „апека“ здаецца яму страшнейшаю за „апеку“ Англіі.

# З жыцьця Польшчы.

### Пасьля соймавае сэсіі

Амаль што ўсе польскія соймавыя клюбы дамагаюцца ад ураду скліканьня новае сэсіі Сойму. Але-ж урад, як відаць, ня мае на гэта ахвоты. Здаецца, што да восені Сойм не зьбярэцца.

### Справа ген. Жымерскага.

Справа ген. Жымерскага, аб надужыцьцях яго ў часе працы ў вайсковым міністэрстве, ўжо трывае 16 дзён. Калі кончыцца—няведама. Прыхільныя да ўраду польскія газэты вінуюць Жымерскага, а апазыцыйныя лічаць ген. Жымерскага не вінаватым.

### Ізноў гандлёвы дэфіцыт.

Польскі заграгічны гандаль даў 46 мільёнаў злотых у золаце дэфіцыту, г. зн., што ў Польшчу прывезена на 46 міл. злот. у золаце болей тавараў, як вывезена.

Гэтакае палажэньне ў дзяржаве вельмі не пажаданае. А дзе ёсьць гэтакае зьявішча, дык знача, там благі гаспадарчы стан грамадзянства і дзяржавы.

### Маленькі скандал.

Польскія месты вельмі энэргічна ўзяліся даваць нагароды сваім пісьменьнікам. Места Сасновец вызначыла нагароду пісьменьніку А. Стругу, ваявода келецкі сваім „pismem“ пастанову меставае рады скасаваў. Проці гэтакага ўчынку келецкага ваяводы вельмі абурыўся „Głos Prawdy“.

## Выбары прэзыдэнта м. Вільні.

Віленскія выбары ў меставую Раду ўлада прызнала правільнымі і зацьвердзіла.

На першым паседжаньні новае рады адбыліся выбары прэзыдэнта места Вільні.

Прэзыдэнтам выбраны вядомы дзеяч-адвакат Ледніцкі, які жыве цяпер у Варшаве. Ледніцкі выбару не прыняў і ад пасады прэзыдэнта места Вільні адмовіўся. Віцэ-прэзыдэнтам выбралі нейкага Чыжа.

У часе выбараў „Наша Праўда“ пабіла рэкорд самахвальствам. Справа ў тым, што ў часе выбараў „пятнастка“ выставіла кандыдатам на прэзыдэнта раднага Крука, які зьяўляецца быццам беларусам. За Крука галасавала з 48 аж 5 радных. У гэтым „Наша Праўда“ бачыць вялікую прыхільнасьць да Беларусаў заштоўтавых сацыялістаў, але-ж самахвальства „Нашае Праўды“ тут-жа і паказвае сябе, бо піша яна, што выставілі кандыдатуру Крука, напэўна ведаючы наперад, што яго ня выбяруць...

Дык як-жа было-б тагды, калі-б напэўна ведалі, што выбяруць?

Тагды было-б напэўна, што Крук адлятай, а яго мейсца заняла-б іншая варона... Напэўна сам п. інж. Заштаўт.

Галасаваньне было тайнае, але-ж „Нашай Праўдзе“ не перашкодзіла гэта даведацца, што сэнатар Багдановіч галасаваў за Паляка. Бачыце, якая празорлівая, усёведаючая!... Цікава, скуль гэта гэткія запраўднасьці, ці ня з хворае фантазіі факт--рэдактара?

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

# Беларускія студэнты без арганізацыі.

Студэнская моладзь у кожным народзе адыгрывае аграмадную ролю, бо яна зьяўляецца сьветачам для вучнёўскай моладзі ніжэйшых і сярэдніх школаў, бо яна—будучае нашае пакаленьне, якое вызначана да кіраўнічай ролі ў жыцьці народу.

Варункі жыцьця Беларусаў так благія, што мы ў сваім краі ня маем нат' права вучыць сваю моладзь у вышэйшых школах, бо школьныя ўлады не даюць матуры абсальвэнтам нашых гімназіяў. Але гэтую справу астаўляю на боку, і хачу заняцца тымі студэнтамі, якім на столькі спрыяла доля, што яны маглі быць прыняты на ўнівэрсытэт у Вільні. У польскім віленскім унівэрсытэце ёсьць больш меньш з 80 студэнтаў Беларусаў, з якіх каля 30 сьведамых, і належаць да Студэнскага Саюзу. Праўда, матэрыяльнае становішча студэнтства вельмі цяжкое. Кожны павінен зарабіць на пражыцьцё і вучыцца. Але мы ведаем, што якраз цяжкое становішча ёсьць адным з дзейнікаў, якія пабуджаюць чалавека да больш інтэнсыўнай працы. Цяжкое становішча студэнтаў-беларусаў павінна пабуджаць іх да беларускай арганізованнай грамадзкай працы.

Калі мы прыпомнім расейскае студэнства, дык уявім сабе, што яно было рассаднікам лібэральных і радыкальных ідэяў, якія пасьля ў значнай меры, прычыніліся да зваленьня царызму. Польскае студэнства цяпер, наадварот пераважна зьяўляецца разсаднікам дзікага шавінізму і ідэі—Польшча для Палякаў. У іншых народаў студэнства спаўняе тую ці іншую ролю, але калі мы возьмем Заходнюю Беларусь, дык, на жаль, мы павінны сканстатаваць, што беларускай нацыянальнай грамадзкай студэнтскаў працы так добра, як няма зусім... Гэта вельмі балючы факт, асабліва для тых, якія бачаць у будучыне адраджсную Беларусь. Для тых, каго доля нашага сярмяжнага народу мала абходзе, якія пад беларускімназовам спаўняюць, ці то польскую, ці то расейскую, ці то інтэрнацыянальную працу, гэтая справа, справа працы і грамадзкага ўзгадаваньня студэнтаў у беларускім духу, мала абходзе, яны, наадварот, імкнуцца да абязьдзеяньня беларускага студэнства.

Беларускія студэнты на вул. сьв. Анны маюць нат' Студэнскі Саюз, але запытацца, што ён робе, дык сорамна адказваць—бо апрача танцаў іншай дзейнасьці не выяўляе. Праўда, былі прачытаны студэнтамі са дзьве лекцыі—і вось уся праца за год. Беларускія Студэнты ў Празе выяўляюць шмат больш энэргічнай працы ў беларускім адраджэнскім руху чымся студэнты, што знаходзяцца ў краі. У газ. „Сял. Ніва“ часта спатыкалі весткі аб усялякай працы праскіх студэнтаў, між іншым аб працы ў арганізацыі А. Б. С. А. Гэтая арганізацыя зварачвалася праз прэсу да Студэнскага Саюзу ў Вільні з прапановай аб супольнай беларускай студэнскай працы на міжнародным полі. Але Віленскі Студэнскі Саюз быццам глухі, ня чуе заклiку да супольнае працы і ўпорыста маўчыць. Учымжа тут справа? А вось у чым. Каб арганізацыя была дзейная (актыўная) патрэба, каб яе правадыры былі на месцы, адказвалі свайму назначэньню і якраз былі энэргічнымі і шчырымі Беларусамі, што стаяць на нацыянальным грунце.

Аб цяперашнім і папярэднім урадзе Віленскага Студэнскга Саюзу якраз гэтага не магчыма сказаць. Урад Саюзу можа і вядзе якую працу, але відаць паціху, бо нідзе ў друку гэтае працы ня відаць. Трэба падчыркнуць, што нацыянальную беларускую працу студэнства павіна весьці не паціху, але голасна, каб усе чулі і ведалі аб гэтае працы каб відаць было, што студэнтства не чураецца беларускае культуры і працуе над развіцьцём і замацаваньнем яе.

Віной усяго гэтага ёсьць няздатны прэзыдыум Саюзу. Сабралася там таварыства ўласнай „адарацыі“, якое апрача „адарацыі“ відаць нічым не займаецца, а калі і займаецца яшчэ чым, дык баіцца аб гэтым даваць справаздачу. Рукі, якія кіруюць справай Саюзу зьяўляюцца не на месцы. Хоць вечныя студэнты пераважна доўга вучацца дзеля таго, што шмат часу аддаюць грамадзкай працы, ане ў даным выпадку гэтае правіла немагчыма прытарнаваць.

Няма патрэбы больш даказваць аб бяздзейнасьці кіраўнікаў студэнтскага Саюзу. Гэтая рэч усім ясна відаць. Аднак патрэба знайсці лекі на такі стан рэчаў. Веручы ў маладыя сілы нашых студэнтаў і магчымасць працы ў студэнскім саюзе, дзеля абнаўленьня яе, гэтыя маладыя сілы павінны ўзяць у свае рукі кіраўніцтва студэнскім саюзам. Беларускае грамадзянства толькі прывітае гэты крок і памагчымасьці будзе старацца маральна падтрымліваць студэнтства ў працы на полі беларускага адраджэньня

Дык няхай беларускае віленскае студэнтства прымецца за будаваньне свае Бацькаўшчыны!

Абсольвэнт-Баторчык.

## Канфэрэнцыя Бел. Сялянскага Саюзу.

У нядзелю 24-га ліпня ў Вільні (Завальная 6—5), у памешканьні Саюзу адбудзецца канфэрэнцыя запрошаных сяброў Беларускага Сялянскага Саюзу, прадстаўнікоў ад паветаў.

Парадак дня канфэрэнцыі:

1) Анчыненьне канфэрэнцыі.
2) Выбары прэзыдыуму канфэрэнцыі.
3) Справаздача Цэнтральнага Камітэту.
4) Даклады на рожныя тэмы.
5) Арганізацыйныя справы.
6) Рэзалюцыі паасобных камісіяў.
7) Выбары Цэнтральнага Камітэту.
8) Бягучыя справы.

